*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 40(374) 14 КАСТРЫЧНКА 1998 г.**

## 19 кастрычніка
**Беларускаму Народнаму Фронту**
## "Адраджэньне"
10 гадоў



**Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны і рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуюць Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" з 10 - годдзем. У свой час Таварыства Беларускай Мовы прыклала свае сілы дзеля станаўлення Фронту. Дзякуючы ТБМ у Вярхоўны Савет 12-га склікання было абрана 13 дэпутатаў БНФ, у тым ліку і Зянон Пазьняк. Таму свята БНФ і наша свята. Мы ўсе - Фронт, Народны Фронт, Беларускі Фронт. Са святам усіх нас.**

# Надрукаваны Статут ТБМ




У выдавецтве "Белфранс" асобнай кніжачкай выйшаў "Статут Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ў апошняй рэдакцыі, зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 24 чэрвеня 1998 года. Наклад 500 асобнікаў.

Да ведама першасных арганізацый ТБМ. Кожны, хто хоча набыць Статут ТБМ павінен пераслаць 25 тысяч рублёў на адрас: 220095, Менск - 95, п/с 34, Алегу Трусаву.

# Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы можам паведаміць вам вынікі падпісной кампаніі на чацвёрты квартал 1998 года. Сакратарыят ТБМ, арганізацыі ТБМ на месцах, проста актыўныя сябры Таварыства правялі не малую работу і вось вынікі:

| Віцебская вобласць | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Бешанковічы р.в. | - | 3 |
| Браслаў р.в. | 5 | 3 |
| Віцебск гор. | 20 | 24 |
| Віцебск РВПС | 1 | 3 |
| Верхнедзвінск р.в. | 11 | 9 |
| Глыбокае р.в. | 7 | 10 |
| Гарадок р.в. | 1 | 2 |
| Докшыцы р.в. | 1 | - |
| Дуброўня р.в. | 2 | - |
| Круляўшчызна | 1 | 1 |
|Ліёзна р.в. | - | - |
| Лепель р.в. | - | - |
| Міёры р.в. | 4 | 4 |
| Навапалацк гор. | 8 | 13 |
| Ворша гор. | 2 | 7 |
| Полацк гор. | 20 | 32 |
| Паставы р.в. | 4 | 5 |
| Расоны р.в. | - | - |
| Сянно р.в. | - | - |
| Талочын р.в. | - | - |
| Ушачы р.в. | 2 | - |
| Чашнікі р.в. | 2 | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 2 | 2 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **95** | **121** |

| Берасцейская вобласць: | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Баранавічы р.в. | 14 | 15 |
| Бяроза р.в. | 6 | 9 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 9 | 10 |
| Ганцавічы р.в. | 3 | 2 |
| Драгічын р.в. | 1 | 2 |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в. | 2 | 1 |
| Івацэвічы р.в. | - | 3 |
| Камянец р.в. | 1 | 2 |
| Кобрын гор. | 2 | 29 |
| Лунінец гор. | 4 | 4 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 22 |
| Пінск гор. | 4 | 27 |
| Пружаны р.в. | 1 | 2 |
| Столін р.в. | 1 | 42 |
| **Усяго:** | **50** | **171** |

| Гомельская вобласць | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Буда-Кашалёва р.в. | 2 | 4 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 38 | 48 |
| Гомель РВПС | 2 | 2 |
| Добруш р.в. | 2 | 2 |
| Ельск р.в. | - | - |
| Жыткавічы р.в. | 3 | 13 |
| Жлобін гор. | 3 | 8 |
| Калінкавічы гор. | - | 1 |
| Карма р.в. | 1 | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 1 | - |
| Лоеў р.в. | - | 2 |
| Мазыр гор. | 3 | 2 |
| Акцябарскі р.в. | - | 1 |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 2 | 1 |
| Рэчыца гор. | 3 | 6 |
| Рагачоў гор. | 2 | 3 |
| Светлагорск гор. | 12 | 15 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **78** | **113** |

| Гарадзенская вобласць | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Бераставіца | - | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 7 | 8 |
| Воранава р.в. | 3 | 4 |
| Гародня гор. | 35 | 103 |
| Гародня РВПС | 7 | 9 |
| Дзятлава р.в. | 6 | 9 |
| Зэльва р.в. | 3 | 1 |
| Іўе р.в. | 2 | 1 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 5 |
| Масты р.в. | 7 | 9 |
| Навагрудак гор. | 3 | 12 |
| Астравец р.в. | 2 | - |
| Ашмяны р.в. | 21 | 26 |
| Смаргонь гор. | 5 | 6 |
| Слонім гор. | 4 | 6 |
| Свіслач р.в. | 3 | 4 |
| Шчучын р.в. | 2 | 7 |
| Ліда | 27 | 30 |
| **Усяго:** | **141** | **242** |

| Менская вобласць | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Беразіно р.в. | 2 | 4 |
| Барысаў гор. | 6 | 9 |
| Вілейка гор. | 5 | 8 |
| Валожын гор. | 6 | 8 |
| Дзяржынск р.в. | 4 | 2 |
| Жодзіна гор. | 6 | 9 |
| Клецк р.в. | 2 | 1 |
| Крупкі р.в. | - | - |
| Капыль р.в. | - | - |
| Лагойск р.в. | 5 | 8 |
| Любань р.в. | 5 | 11 |
| Менск гор. | 366 | 505 |
| Менск РВПС | 3 | 8 |
| Маладэчна гор. | 21 | 32 |
| Мядзель | 4 | 8 |
| Пухавічы РВПС | 7 | 12 |
| Нясвіж р.в. | 1 | 1 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 1 |
| Слуцк гор. | 10 | 19 |
| Салігорск гор. | 7 | 11 |
| Ст.Дарогі р.в. | 2 | 3 |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 4 |
| Узда р.в. | - | 1 |
| Чэрвень р.в. | - | 5 |
| Фаніпаль | - | 1 |
| **Усяго:** | **471** | **671** |

| Магілёўская вобласць | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Бабруйск гор. | 5 | 3 |
| Бабруйск РВПС | - | 4 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | - | 1 |
| Глуск р.в. | - | - |
| Горкі гор. | 5 | 36 |
| Дрыбін р.в. | - | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Клімавічы р.в. | 14 | 39 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 16 |
| Круглае р.в. | - | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 26 |
| Магілёў гор. | 15 | 17 |
| Магілёў РВПС | 1 | 2 |
| Асіповічы гор. | 6 | 5 |
| Слаўгарад р.в. | - | - |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | - | - |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | - | 1 |
| **Усяго:** | **48** | **152** |
| **Усяго па краіне** | **883** | **1470** |

У першым квартале падпіска складала на студзень 548 асобнікаў. Нейкі прагрэс назіраецца.

Аналізаваць усе змены я не буду. Кожны можа зрабіць гэта самастойна. Агульная тэндэнцыя зразумелая. Белыя плямы ў дзейнасці ТБМ відны, як відна і праца.

Рэдакцыя дзякуе ўсім, хто паверыў у нашую газету і абяцае зрабіць усё, каб "Наша слова" стала вашым словам, стала словам беларускага нацыі.

**Станіслаў Суднік.**

**Паважаная рэдакцыя !**




Дапамажыце, калі ласка, падпісацца на газету **"Голас Беларуса"**, каб атрымліваць яе без перашкод.

Таксама пажадаў бы мець падпіску на газету **"Беларускі калекцыянер"**, але, на жаль, не маю ніякай інфармацыі наконт гэтага выдання.

Дапамажыце, калі ласка !

З павагай да "Нашага слова", Уладыслаў Жыгалка.

220006, г.Менск, вул. Надзеждзінская. 9-104. Беларусь.

***Ад рэдакцыі газеты "Наша слова".***

*Для ўсіх, хто цікавіцца газетай **"Голас беларуса"** кантактны тэлефон 017-2-84-12-50. Адрас: Менск. вул. Варвашэні, 8. Адрас рэдакцыі газеты **"Беларускі калекцыянер"**: 211030, г. Орша,вул. Флёрава, 7-16. Беларусь.*

## Добры дзень, Аляксандр Іванавіч!

**Паважаная рэдакцыя "Нашага слова".**

У № 37 ад 23 верасня 1998 г. быў змешчаны верш "Усяму свой час" за подпісам Алеся Ляскоўскага в.Марцянаўцы Ваўкавыскага раёна. Мне здаецца, што гэта былы мой настаўнік Аляксандр Іванавіч Ляскоўскі. Ён вучыў мяне ў чацвёртым класе Ганасаўскай пачатковай школы, Бурняўскага с/с, Ваўкавыскага раёна.

--Ці памятаеце мяне, Аляксандр Іванавіч. Вы былі на кватэры ў Пачуйках, а школа была ў нас, у Ганасаўцах. Гэта прайшло ўжо многа часу, ужо я такама пенсіянер. Калі гэта так, дык адгукніцеся. Я — гэта Рыжко Віктар Філіпавіч, а жыву цяпер у Гродзенскім раёне, Каццеўскага с/с. в. Каццеўка, вуліца Перамогі, 69.

Дзякую Вам за верш, за Вашую неабыякавасць да адраджэння беларускай мовы. Вас я стаўлю ў адзін шэраг з вялікім прыхільнікам у справе адраджэння беларускасці на Гарадзеншчыне Алесем Белакозам. Вы не можаце яго не ведаць. Гэта ж Гудзевічы. Амаль што, "мой родны кут".

Дык пішыце мне.

*З прывітаннем,*
***В. Рыжко***

# Падпіска скончана. Падпіска працягваецца.

Сакратарыят ТБМ падпісаў сельскія бібліятэкі Баранавіцкага раёна на газету "Наша слова" на апошнія два месяцы 1998 года

## Чытайце матэрыялы 1-ай навукова-практычнай канферэнцыі ТБМ у Магілёве, ад 27 траўня 1998 года.




У Магілёўскім гуманітарна-эканамічным недзяржаўным інстытуце выйшла кніга "Сацыякультурная прастора мовы". Аўтары С. Іванова, Я. Іваноў, Н. Мячкоўская. У кнізе аналізуецца моўная сітуацыя ў Беларусі, этычныя калізіі двухмоўя, ставіцца праблема лінгвакраіназнаўчай рэпрэзентацыі нацыянальна-культурнай семантыкі беларускай мовы. Асобную частку складаюць матэрыялы дакладаў і паведамленняў 1-ай навукова практычнай канферэнцыі "Беларуская мова: стан ужытку пасля рэферэндуму", прысвечанай актуальным пытанням сучаснага сацыяльна-прававога і культурнага статусу беларускай мовы.

## Павышэнне дзейснасці СМІ ў Рэспубліцы Беларусь

5 кастрычніка ў Гародні прайшоў міжнародны семінар "Павышэньне эфектыўнасці дзейнасці СМІ у Рэспубліцы Беларусь". Семінар наладзілі: Каліфарнійскі інстытут свабоднай прэсы і Беларуская асацыяцыя журналістаў. Семінар найбольш быў цікавым таму, што на ім шмат дыскусіяваліся праблемы менавіта незалежнай рэгіянальнай прэсы. Спадар Клэйтан Хасвэл з Сусветнага інстытута свабоднай прэсы (Каліфорнія) падзяліўся досведам стварэння ўстойлівых незалежных СМІ ў Амерыцы. Дарэчы, у Амерыцы амаль што не існуе прэсы, якая ад каго-небудзь залежала бы. У амерыканскай Канстытўцыі запісана: "Няма сілы, няма закону, які б кантраляваў свабоду прэсы, рэлігіі, права крытыкаваць свой урад". І што найбольш важна , гэты закон Канстытуцыі працуе. Існуе кодэкс маралі і этыкі журналіста, але ён мае права выказаць любое сваё меркаваньне. У нашай краіне, на жаль, да гэтага яшчэ далёка. Таму развіццё менавіта незалежнай прэсы (газета "Наша слова" — гэта газета Таварыства Беларускай Мовы, але гэта не дзяржаўная газета) на сённяшні дзень мае выключнае значэнне. Тыя навіны, якія нашы чытачы могуць даведацца толькі з незалежнай прэсы, даволі праблематычна атрымаць у дзяржаўных або афіцыйных органах. Цэнтр прававой аховы пры Беларускай асацыяцыі журналістаў распрацаваў рэкамендацыі, якім чынам павінны дзейнічаць журналісты, якім адмаўляюць у атрыманні нейкай інфармацыі. Патрэбна ведаць артыкул 32 "Закону аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Інфармацыю павінна патрабаваць рэдакцыя, а не асобны журналіст. Кіраўнік рэдакцыі павінен аддаць свайму супрацоўніку афіцыйны загад сабраць нейкую інфармацыю. Калі нейкі афіцыйны орган адмаўляецца гэтую інфармацыю паведаміць, існуе працэдура, як змагацца з гэтым органам. Патрэбна падаваць афіцыйную скаргу ў вышэйшы орган. Калі і гэта не дапаможа — падаваць у суд. Я знарок гэтак падрабязна затрымліваюся менавіта на гэтым пытанні, таму што "Наша слова" таксама сутыкаецца з гэтакімі праблемамі. Не заўсёды мы можам атрымаць патрэбную інфармацыю пра стан беларускай мовы ва ўсіх патрэбных нам органах. І не заўсёды тая інфармацыя, якую мы атрымліваем, адвядае рэчаіснасці. Афіцыйныя органы могуць лічыць, што стан з беларускай мовай у іхнім рэгіёне найлепшы, між тым гэта можа быць зусім наадварот. Карэспандэнты "Нашага слова" павінны мець магчымасць атрымаць менавіта сапраўдную інфармацыю.

Таццяна Рапкава — вядомая журналістка са Славаччыны — падзялілася сваім досведам, як зацікавіць чытача. Чытачу павінна быць цікавай тая інфармацыя, якую падае газета. Газеты павінны ўмець адшукаць і зацікавіць свайго чытача. Спецыфічныя газеты, такія як "Наша слова"— тым больш. Спадарыня Рапкава падзялілася сваім асабістым досведам, як гэта мажліва зрабіць. Патрэбна высветліць, хто чытач газеты, што гэтыя чытачы хочуць чытаць на старонках газеты, ці хочуць яны наогул чытаць менавіта гэтае выданне. З гэтага нумару рэдакцыя "Нашага слова" прапаноўвае сваім чытачам і прыхільнікам падзяліцца сваім меркаваннем на гэты конт. Давайце газету рабіць разам! Шаноўныя настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, старшакласнікі, усе, каму родная мова не абыякавая, выказвайце свае меркаванні на старонках "Нашага слова"!

*Лілея Сазанавец.*

## Яшчэ аб мовах

У нумары 19 "Нашага слова" змешчаны "Закон аб мовах Рэспублікі Беларусь". Дзяржаўнымі мовамі прызнаюцца мовы беларуская і расейская. Не мы адны ў свеце, дзе прызнаюцца дзве мовы дзяржаўнымі. Прыклад Канады: мова ангельская і французская. Бельгія — фламандская і французская. Швейцарыя — чатыры мовы. Розніца, аднак, у тым, што тыя дзяржавы засноўваліся на дзвюх і больш этнічных групоўках і гэтыя мовы развіваліся паралельна. Сёння яны раўнапраўныя і кіраўнікі гэтых дзяржаў і іншыя розныя чыноўнікі павінны адказваць на той мове, на якой да яго звяртаюцца. У іншым выпадку можна страціць працу або быць нават пакараным, за дыскрымінацыю. У Беларусі сітуацыя была іншая. Беларуская мова была дзяржаўная у Вялікім Княстве Літоўскім і толькі пасля расейскай акупацыі ў 1795 годзе беларуская мова была забаронена. Пад час савецкай акупацыі яна не была афіцыйна забароненай, але карыстацца ёю было даволі небяспечна. За гэта маглі абвінаваціць у нацыяналізме — цяжкі грэх, за які плацілася дзесяццю або больш гадамі канцлагеру. Як жа выглядае моўная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь сёння? Вярхоўная ўлада карыстаецца выключна расейскай мовай, прэзыдэнт рэспублікі карыстаецца выключна расейскай мовай. Беларускамоўныя школы зачыняюцца. Тэлебачанне, у асноўным, на расейскай мове. Адзіная беларускамоўная радыёстанцыя ўрадам была зачынена (маецца на ўвазе "Беларуская маладзёжная").

Карыстаца беларускай мовай часта небяспечна, бо былі выпадкі, калі амонаўцы збівалі людзей за беларускую гаворку. Амонаўцы — выканаўцы волі ўраду. Людзей збівалі да непрытомнасці. А ў Канстытуцыі запісана: дзяржаўная мова беларуская і расейская. Відаць, гэтая Канстытуцыя, як і сталінская, некалі, ёсць толькі на паперы. Як доўга беларускі народ будзе трываць гэтакую несправядлівасць? Як доўга ён будзе пазбаўлены правоў чалавека? Як доўга ён не будзе мець права на прыватную маёмасць? Як доўга ён будзе жабраком у сваёй краіне? На гэта я не маю адказу, але адказ павінен мець беларускі народ.

**Барыс Рагуля, Канада.**

## Забарона на прафесію на моўнай прыкмеце

Міхась Пятровіч Булавацкі. Настаўнік матэматыкі. Катэгорыя — вышэйшая. Узрост — 50. Стаж педагагічнай працы: у школе 11 гадоў, у ВНУ (кафедра методыкі выкладання матэматыкі) — 19 гадоў. Адзін з заснавальнікаў Асацыяцыі педагогаў-даследчыкаў Беларусі, кіраўнік творчай лабараторыі настаўнікаў матэматыкі "УМОМ" пры Рэспубліканскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў (1986-1993). Аўтар звыш трыццаці навуковых публікацый аб праблемах выкладання матэматыкі ў школе (на чатырох мовах). Кіраўнік эксперыментальнай работы па засваенні настаўнікамі г.Менска наватарскіх тэхналогій (1987-1992), за што ўзнагароджаны Ганаровай граматай упраўлення адукацыі Менгарвыканкама. Удзельнік некалькіх міжнародных навуковых канферэнцый. Актыўны папулярызатар перспектыўных тэхналогій навучання матэматыцы праз масавую прэсу і непасрэдня выступленні перад настаўнікамі, з якімі аб'ехаў дзесяткі гарадоў былога Савецкага Саюза. Аўтар першага ў Беларусі падручніка для пятых класаў беларускіх гімназій (падручнік выдадзены пробным выпускам у Выдавецтве Магілёўскага ўніверсітэта)... Спадар Міхась кіраўнік Магілёўскай абласной рады ТБМ.

Поспехі яго работы ў школе засведчаны перамогамі яго вучняў на алімпіядах і ў конкурсах у розных ВНУ. Аб яго працы ў педагагічным інстытуце студэнты так гаварылі карэспандэнту І.Аўчыннікавай: "Для нас он был идеалом преподавателя. Ни у кого столько не взяли. Он влюбил нас в профессию, смысла которой мы до встречи с ним не понимали. Нам по-настоящему посчастливилось, что мы занимались у Буловацкого." ("Известия" 6.04.1985).

Сёння, на пачатак кастрычніка 1998 года, гэты чалавек ужо тры месяцы беспрацоўны. Кафедра Магілёўскага ўніверсітэта, на якой ён працаваў 19 год, адмовілася ад яго паслуг, бо ён — не кандыдат навук. Чаму ж тады ён не ў школе? Адказ неймаверны: чалавек шукае школу, дзе б ён мог выкладаць матэматыку на беларускай мове. Шукае і не знаходзіць. Просіць: дайце мне хаця б адзін клас! Няма такога класа. Просіць: дайце мне магчымасць набраць такі клас, — да мяне пойдуць вучні. Адказваюць: спачатку вы ўладкуйцеся ў расейскамоўную школу, а потым з дырэктарам гэтай школы і вырашайце пытанне. Аказваецца, шлях да беларускай мовы ляжыць праз расейскую.

Ці ж патрэбныя Беларусі настаўнікі матэматыкі (мабыць, не толькі матэматыкі), якія валоджаюць беларускай мовай, любяць яе і хочуць вучыць дзяцей на гэтай мове?

Магчыма яму здолеюць дапамагчы прэзідэнт Беларусі і міністр адукацыі, якія на ўсіх сустрэчах запэўніваюць пра роўнасць дзвюх славянскіх моваў і гэта ў той час, калі мясцовя чыноўнікі метадычна знішчаюць усе праявы беларускасці на Беларусі.

***Алег Трусаў,***
***першы намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны.***

## Падарожжа, наладжанае ТБМ

27 верасня Лідскімі Радамі ТБМ і ТБШ для школьнікаў сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту было наладжана вельмі цікавае падарожжа. Спачатку наведалі Бярозаўскі шклозавод "Нёман", якому ў гэтым годзе спаўняецца 115 год. Гэта адно з самых старэйшых прадпрыемстваў гэтай галіны ў нашай краіне. Дзеці наведалі музей на прадпрыемстве, увачавідкі пазнаёміліся з працэсам стварэння шкляных вырабаў.

Дзесьці каля 11-ці гадзін раніцы падарожнікі ўжо былі ў Навагрудку — старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Гэты горад, які калісьці быў "тварам" нашай дзяржавы, ягонай візітнай карткай, зараз, на жаль, знаходзіцца ў занядадзе. У свой час акупацыйныя ўлады як Польшчы, так і Расеі праводзілі палітыку на недазваленне развіцця невялікіх беларускіх гарадоў і мястэчак. У Навагрудку па сённяшні дзень няма чыгункі, што, зразумела, не дазволіла гораду расці і развівацца. Між тым, Навагрудак — радзіма вялікага беларускага паэта Адама Міцкевіча. Школьнікі Лідчыны наведалі музей паэта, падняліся на гару Міндоўга і курган, які быў насыпаны ў гонар Адама Міцкевіча. Дарэчы, сёлета ў Навагрудку святкаваліся не толькі 200-ыя ўгодкі Адама Міцкевіча, але і 100-годдзе ягонага "Пана Тадэвуша" (выданне на беларускай мове).

Наступны прыпынак у падарожжы — Мірскі замак — помнік архітэктуры XVI - XX ст.ст. Гэта быў, напэўна, цвік праграмы, бо што можа быць цікавей для падлетка, як падняцца на вежу па стромкіх прыступках?

Пасля Міра быў Нясвіж, вядомы замак Радзівілаў, у якім зараз размешчаны санаторый "Нясвіж", і Фарны касцёл. Нясвіж адметны не толькі замкам і касцёлам, але і вельмі прыгожым старым паркам, які з'яўляецца помнікам гісторыі і прыроды.

Змораныя, але вельмі задаволеныя, падарожнікі вярнуліся ў Ліду. Па дарозе дахаты слухалі кампазіцыі беларускіх гуртоў. Была праведзена віктарына "Угадай беларускі гурт", пераможца атрымаў касэту гурта "Крама".

*Лілея Сазанавец*
*г.Ліда.*



**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гардзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

## "З чужой моўнай практыкі..."

(Працяг. Пачатак у №№ 5-7, 12-15)

### *Крумкач, крук, груган — а не воран.*

Расейскае ***ворон*** В. Ластоўскі перакладае наступным чынам: ***"Ворон м., птах з пароды варон, чорны ўвесь з адлівам: крук. Лесавы крук: крумкач"*** (ПРК(б) С.С.83). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С.Некрашэвіча таксама бачым: ***"Крук, крумкач м. — ворон"***. А таксама ***"Груган м. — ворон"***.

Усе наступныя перакладныя слоўнікі да рас. ***ворон*** падаюць толькі ***груган і крумкач.*** А вось самы асіміляцыйны даведнік двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" фіксуе і наступнае: ***"Воран м. см. крумкач"*** (БРС-88.С.239). Паводле каментару Слоўніка (С.10."Значэнне спасылак"), гэта азначае, што "Спасылачнае слова ўжываецца ў мове радзей або мае зніжаную стылістычную афарбоўку". Але для чаго спатрэбілася падача гэтага ***"воран"*** у слоўніку? Дзеля зліцця моваў? Слова ***воран*** не падае ніводны іншы слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Нават шасцікнігавы "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", у якім нямала парушэнняў лексічнай нормы.

У выдатнага знаўцы мовы, Рыгора Барадуліна чытаем: *"Жаўранак абнашчыцца расінкай, Падаллю насыціцца крумкач ... Неба корміць жаўранка з далоні. Крумкача гадуе дол глухі"* (Да цябе душой і думкамі хінуся. — ЛіМ 2 студзеня 1998 г.).

### *Мысляр і мысліцель*

Слова ***мысліцель*** апошнім часам набывае сваіх аднакаранёвых апанентаў без суфікса ***-цель*** (гэты словаўтваральны фармант беларускай мове неўласцівы, пра што няраз згадвалася). Так, у перыядычным друку сустракаем: ***мыслівец, мысліўца, мысляр***. У Рыгора Барадуліна, надта адмысловага словатворцы, выкарыстоўваюцца два іншасуфіксавыя аднакаранёвыя варыянты: *"І знайшоў пункт апоры мысліўца* (Полымя. 1995. №7. С.4); *і, задумаўшыся, не варухнуцца камяні — незразуметыя мысляры"* (ЛіМ. 2.01.1998).

У газеце "Пагоня" (19. 09.1997): *"245 гадоў з дня нараджэння Ераніма Страйноўскага, мысьляра і правазнаўца другой паловы 18 стагоддзя"*. У Антаніны Хатэнкі, надта чуйнай да слова пісьменніцы, часта выкарыстоўваецца слова ***мысляр***. Напрыклад: *"Але творцы-мысляры ўседаравальныя — са свае духоўнае вышыні яны сыходзяць да нас"* (Наша слова.1998.№1). Яно створана паводле дзейнай у беларускай мове словатворчай мадэлі: "аснова дзеяслова (або назоўніка) + суфікс -ар (-яр), як і ***пісар, друкар, змагар***.

Можна меркаваць, што наватвор ***мысляр*** стане трывалым канкурэнтам, а затым і адмысловым беларускім адпаведнікам рас. ***мыслитель***. Як і ***мыслёвы*** замест ***мысліцельны*** (рас. ***мыслительный***). Параўн. У.Н.Гілевіча:" *і дзесяткі іншых навукоўцаў, мысляроў, асветнікаў...*"(ЛіМ. 23. 01. 1998. С.15).

### *Кахля ці кафля.*

Слоўнікі 20-х гадоў падавалі толькі кахля. У В. Ластоўскага: *"Кафля ж.печная пліта ўзорамі ці гладкая, найчасцей паліваная: кахля"* (ПРК(б)С.С.253). У "Беларуска-расейскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча: *"Кахля ж. — изразец"*. Форму ***кахля*** бачым у слоўніках Насовіча, Бялькевіча, Каспяровіча, Шатэрніка, у дыялектных слоўніках гарадзенскіх гаворак — Таццяны Сцяшковіч, Апанаса Цыхуна і аўтара гэтых радкоў. Форма ***кахля*** адпавядае першакрыніцы — нямецк. ***Kachel.*** Аднак сучаснай нормай лічыцца чамусьці ***кафля*** - форма, больш блізкая да таго, што замацавалася ў расейскай мове, - ***кафель.*** І вытворныя прыметнікі падагнаныя пад расейскую структуру. Так, у РБС-82 бачым: ***"Кафель м. кафля ж.; кафельный — кафляны, кафельны"*** (Т.І.С.350). А ў народнай мове Гарадзеншчыны: ***кахля і кахлёвая печка.*** Форма ***кахля*** выкарыстоўвалася і класікамі нашай літаратуры. У Якуба Коласа чытаем: *"Ды яшчэ бульбу ў кахлянай печы свінні варылі"* (У двары пана Тарбецкага). Дык чаму штучную форму, якая не адпавядае першакрыніцы, замацавалі, як літаратурную норму. Тады мо і натуральнае ***хутар*** заменім на "звышправільнае ***футар***"?!

*(Працяг у наступным нумары)*

